

*Ноч. Павуціньне сноў.*
*Дзень. Павуціньне спраў.*
*Скажаш, нібыта скраў*
*Некалькі нечых слоў…*

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)-5
С95

**Сыс С.**
ПАВУК : вершы / Сяржук Сыс. – Мінск : Галіяфы,
**С95** 2014. – 96с.

ISBN 978-985-7021-58-1

Новую паэтычную кнігу Сержука Сыса “Павук” склалі вершы, створаныя за працяглы прамежак часу, што дае магчымасць прасачыць за творчай эвалюцыяй аўтара.

«Месцамі аголена, недзе балюча, часам наіўна”, – падвёў рысу Філосаф. “На дзіва непасрэдна і чыста” – прызнаўся аўтар Буквара. “Змрочна і гнятліва” – уздыхнуў Сябра. А брытанскі прафесар-філолаг адзначыў: “Хоць паэт вызнае сябе гарадскім жыхаром, аднак таямніцы і нават небясьпекі прыроднага сьвету вабяць яго, і не ў апошнюю чаргу дзеля мудрасьці, што адкрываецца там”. Ісціна ж, як лічыць сам аўтар, недзе пасярэдзіне.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7021-58-1**

* * *

Падобна Сфінксу вечна сьплю –
Так страшна зараз прачынацца,
І я, патрэбна вам прызнацца,
Падобна Сфінксу вечна сплю.
Няхай калоціць гром зямлю,
Стагодьдзі скопам праімчацца,
Падобна Сфінксу вечна сьплю –
Так страшна зараз прачынацца.

*1979*

* * *

Прыжыліся ў памяці
сіверныя дні,
сьнегавыя замеці,
тлум ды камяні.
Гне незадаволенасьць
часам да зямлі…
Хто ж нам, браце, волі дасьць,
каб і мы жылі?
Каб свой голас мець нам, –
досыць быць нямым!
Хто ж наш век адметным
зробіць, як не мы?
Каб з калень узняцца,
стаць самім сабой…
То не проста праца,
то – зацяты бой.

*1983*

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ

Што за ноч зь зімою сталася?
Ледзь да ранку пратрымалася
І сыйшла сьнягамі талымі,
Ручаінамі ды прагаламі.
Сёньня зноў жа з лёгкай грацыяй
Лепіць іней на акацыі.

*1983*

* * *

Разьлятуцца сноў карункі –
Нават глянуць не пасьпееш,
Ты, як бомбай, пацалункам
Сон мой ранішні развееш...

*1983*

* * *

Румза-восень адшасьцела
Позьнім золатам лістоты,
Гнуцца голыя чароты –
Румза восень адшасьцела.
Малады мароз нясьмела
Чэпіць на вакно афорты,
Румза-восень адшасьцела
Позьнім золатам лістоты.

*1986*

## УВАРВАНЬНЕ Ў ЖАБІН РАЙ*

За сівою лазой, за чаротам,
Там, дзе рэчка ў затоках сумуе,
Я зацішак знайшоў ад сьпякоты,
Дзе не ўбачыць ніхто, не пачуе.
Толькі нехта тут ёсьць, адчуваю,–
І глядзіць гіпначычнай нахабай
Са свайго чаратовага раю
Рудавата-зялёная жаба.
Ах, як марыць яна, ах як прагне,
Акупанта ў сваіх уладаньнях
Утаптаць мокрай лапкай у багну
І зьмяшаць з першароднаю тваньню.
Лепш зірні ты, жабоцька дурная,
Як я зараз, вось тут, распрануся,
Як над няствам тваім узлятаю,
Ды аб люстра вады разаб’юся.
Увап’ецца пажадліва цела
У спакойныя чыстыя хвалі…
Толькі жаба ад жаху прымлела
І ўцякла ад чужынца падалей.

*1987*

---

** «Які жах!» – усклікнула неяк паэтка Галіна Каржанеўская, калі пачула гэты верш.*

## НАД ЧАЧОРАЙ

Дзе пяшчотная Чачора
Да гулякі Сожа льне,
Карагоды водзяць зоры
На рачным халодным дне.

За лясамі дрэмлюць хмары,
Вецер свежы сьняць яны,
Срэбны коціцца дынарый
За сівыя курганы.

Там злавесным чорным роем
Баль спраўляюць крумкачы,
А над Замкавай гарою
Сумна ратуша маўчыць.

*1987*

## РАЗМОВА З ВЕТРАМ

Не вый у коміне, вятрыска,
Далёкі мой і крэўны брат,
І кроплямі дажджу не пырскай
На апусьцелы ціхі сад.

Ня спаць і мне з табой да раньня,
Стаіўшыся ў начной цішы:
Ты – валацуга па прызваньні,
І я вандроўнік у душы.

Паслухай, лепей кінь бадзяцца,
Спачні хоць ноч у пастцы сьцен.
Няхай табе – спакой і праца,
А мне – трывога перамен!

*1988*

* * *

Несуцяшальна і нястрымна,
Нібы ад сьвечкі тонкі дым,
Цяпло сыходзіць ад каміна,
Ад нас – гады.

Хвіліна гіне за хвілінай
У пырсках часу залатых…
А недзе блізка той прыпынак,
Дзе сыйдзеш ты.

Нальюцца чырваньню рабіны,
І зьледзяніць твой скон зіма.
З палёгкай разагнуцца сьпіны:
Цябе – няма.

Але жыцьцё на тым не згіне,
Бо Творцы мудрага рука
З падатлівае зьлепіць гліны
Твой дублікат.

*1988*

## ДУБ

Небасхіл напіўся сінькі,
Недзе ў сіні – жаўрукі,
Строма, вецер, лазнякі і
Плынь няскоранай ракі.
Паміж небам і зямлёю,
Глянь: як ёсьць, памежны слуп,
Па-над самаю вадою –
Задуменны волат дуб.
Зачаруюць хутка хвалі
Ды завабяць у раку…
Паплывуць па плыні далей
Дуб і кірля на суку.

*1988*

## ПАРКАВАЯ ЭЛЕГІЯ

Як парк за лета загарэў –
Стаў пляжнікам агністым.
Нырцую ціха ў прыцень дрэў,
Маўклівых і ўрачыстых.
Хачу адчуць пасьля турбот
Жыцьцё ў шаптаньні лісьця,
Забыцца пра кругазварот
Нікчэмных спраў і выйсьцяў.
Адолее шчымлівы сум,
Што гэтак, не іначай:
З камля жыцьця скубем тырсу
І тлеем без астачы.
Наўскос праз ціхі парк брыду
Наўпросткі, без сьцяжыны,
Ды чую: “Ён шукае дуб,
Сабе на дамавіну”.

*1988*

## ПАЛЮБОЎНІЦА-ВОСЕНЬ

А восень прыходзіць паволі:
Няўглядна, нібы незнарок,
Лысеюць старыя таполі
Пад воллавам цяжкіх аблок.

Шыбуе суседскім прысадам,
Латошыць чужы агарод,
Антоны духмяныя – градам
Саб’е і зьбяжыць цераз плот.

Парве кружалі павуціньня,
Што зьвіслі над пылам шляхоў,
Схаваецца ў пышных вяргінях,
Чырвоных, нібыта кроў.

І сэрца сабою запоўніць,
І ўшчэнт расьцярушыць спакой,
Найлепшая з палюбоўніц,
Восень імя якой.

*1988*

## ВОГНЕПІСАНЬНЕ

Я намалюю ноч сваю,
Бяз гэтай лютаўскай завеі,
Мне толькі пэндзаль – я пасьпею,
Я намалюю ноч сваю.

Расквечу фарбамі вагню
Палотнішча дрыготкіх ценяў…
Па дрогкіх сполыхах сумненьняў
Прайдуся фарбамі вагню.

І стане хораша ў грудзях,
Зняможацца ліхая сьцюжа,
Я нават сьнег гарэць прымушу –
Так стане хораша ў грудзях.

Я намалюю ноч сваю,
Няхай палае, дражніць, кліча!
Сьвятлом пакрэсьлю безаблічнасьць
І намалюю ноч сваю.

*1990*

## ДЫМ

Дым адносін,
Дым крадзеных слоў,
Сноў дым –
У кватэры сярод чужых,
Дзе штодня па твары маім
Прапаўзаюць хлусьні смаўжы.
Гэты дом
І вар’яцтва шпалер,
І такі-сякі дабрабыт…
Сярод іх мы, здаецца, жывем,
А дакладней жыве нябыт.
Не праз вочы вакон
Дым густы,
Непраглядны, нібыта сон,
Не праз сэрца са мною ты,
А з табою прыйшоў і ён:
Поўны самай зямной нуды –
Пракаветны халодны дым.

*1990*

* * *

Аднойчы я проста забыўся
пра свой дзень народзін,
прабачце, сябры,
не крыўдуйце, бутэлькі віна –
мы абавязкова зьбяромся
і год мой праводзім,
і ўсё, што знойдзецца ў доме,
вып’ем да дна…

*1991*

## ПАЛЯВАНЬНЕ*

Ілайя!
Я рлы іла арвай,
Лай – яй.
Дог ы ад арла
Алі лігой.
Айя год дай,
Далігойда!

*1991*

---

** Упершыню верш прагучаў у прамым эфіры радыёпраграмы «Беларуская маладзёжная». На арыгінале – пазнака Леаніда Дранько-Майсюка: «Цудоўны верш!».*

## НАДЗЕІ

Не забі прыходам нечаканым,
Шэптам сон мой чуйны не крані,
Дрогкім ценем, сплеценым з падману,
Не цікуй за мною ў цішыні.
Зоркавымі йльдзінкамі-вачамі
У натоўпе твар мой не шукай.
Хай нішто, ніколі паміж намі,
Шанц адно застанецца няхай.
Але ўсё ж здараюцца сустрэчы,
Ды часьцей вяртаецца зіма,
А яшчэ часьцей прыходзіць вечар,
У якім ізноў цябе няма.
Уяві, а раптам, – ці магчыма! –
У расхростаным крысе дзьвярэй
З’явіцца …я ведаю, жанчына,
Прыйдзеш ты, надзея ўсіх надзей.
Кожнаму сваё наканавана:
Разам нам – жыцьцё аддаць на злом…
Не забі прыходам нечаканым,
Не прыходзь, мяне тут не было.

*1995*

## ДАРОГІ

Вы дарагія мне
Гасьціннасьцю абочын,
Усьцяж якіх суседзяць
І студні, і крыжы,
Дарогі, па якіх
Мы так зацята крочым,
Яшчэ хацеў бы доўга
Адно – дарогай жыць!

*1997*

* * *

Часам прысьніцца,
прымроіцца сёньня,
поплаў і вогнішча
па-над ракой,
ціхім іржаньнем
стрыножаных коней
устурбаваны
начны вадапой.
Лета за летам
ляціць у пагоню,
толькі ўсё сэрца
шчыміць і шчыміць…
мабыць, таму,
што так хочацца коней
з рэчкі маленства
ізноў напаіць.

*1999*

* * *

*«Жанчына яшчэ з калыскі чыйсьці*
*сьмяротны грэх...»*
*М. Цвятаева.*

Бог у кожнага ёсьць адзіны,
Як і грэх – з адамавай косьці.
Не стварайце Бога з жанчыны,
Успрымайце: яна ваша госьця.
І ня трэба шукаць таямніцы,
Летучы, нібы пчолы на пах,
На чароўную кветку ў спадніцы
З чарцянятамі ў шэрых вачах.
Аплятуць цела зьмеі-ліяны,
Звяжуць волю трывалым вузлом…
Дык чаму спрадвеку, як п´яныя,
Мы ляцім за жаночым цяплом?
Мы шукаем, ляцім і гінем,
Забываючы ў полымі ўцех,
Што ёсьць кожнаму Бог адзіны
І адзіны сьмяротны грэх.

*2002*

## ВЫП’ЕМ З МЕСЯЦАМ ВІНА

Да вакна вяло бяссоньне,
Адчыняла ноч вакно,
Месяц выгнуўся ў паклоне:
– Не нудзіся, ёсьць віно.

Пілі моўчкі і адчайна,
Потым Месяц рог крывы
Мне падаў, нібы начальнік,
Ды пацёгся за хлявы.

Сярод шолаху і ўсхліпаў
Ловіць слых сярдзіты гук:
У густой лістоце ліпы
Заблукаў спазьнелы жук.

Піў, відаць, згубіў дарогу,
Дома жонка выесьць плеш…
Мне ж і гэтага нямнога
Не адкроіш, не нальеш.

Трэснуў лёс, нібы начоўкі:
Я – адзін, яна – адна…
Заўтра месяц прыйдзе зноўку,
Вып’ем з Месяцам віна.

*2002*

* * *

Выбачай, ты мне робіш балюча,
І за што мне вырак такі:
Быццам нема дранцьвею над кручай
Хуткаплыннай ліхой ракі.

Я ня змог нават словам агучыць
Спеву сэрца і плачу душы…
Што ж ты робіш мне так балюча?
Адкажы, мой Пілат, адкажы.

Гэты боль, як вада гаючая,
Як яшчэ не народжаны верш…
Покуль мне без цябе балюча –
Ты існуеш, сваволіш, жывеш.

*2002*

## “SOS”

Аглушаны зьнянацку лістападам,
Я жоўтым лісцем долу ападаў.
Даруйце мне, сьцяжыны і прысады,
За тое, што зваліўся, як бяда.

Укрыў зямлю ашмоцьцем свайго цела,
Якое нёс табе, ды ўшчэнт растрос,
І толькі як стаката шапацела,
Услед тваім таропкім крокам “SOS”

Спыніся, глянь углыб маіх адценьняў –
Рубін і охра, бронза… вось букет!
Схілі свае дзявоцкія калені,
Складзі з мяне нябачаны партрэт.

А ў ноч, калі засьнеш адна ў пакоі,
Рассыпаўшы салому пахкіх кос,
Прысьні, што не букет, а я з табою,
Бо гэта я шаптаў адчайна “SOS!”

*2002*

## ПОЗЬНЯЯ ВІШНЯ

Белыя кроплі ў зялёным:
Вішня прыбралася кветам.
Жніўню тры дні да скону,
Столькі ж да скону лета.

Гонкая, любая вішня,
Глянь, як у небе хмарна!
Квет твой запозьнены, лішні,
Долу асыплецца марна.

Дорыш адну гарчыну.
Сэрцу шчэ болей сьлёзна:
Я пакахаў дзяўчыну
Так непапраўна позна.

Сам жа свавольнік гэткі –
Сэрца ня ў час расквеціў…
Зьвянуць пачуцьцяў кветкі,
Не абзавуцца дзеці.

Квет твой цнатлівы і цёплы,
Ў сэрцы ня будзе замглёны.
Сьвецяцца белыя кроплі
Позна ў лісьці зялёным.

*2002*

## СРЭБНЫ ЛАНЦУЖОК*

Па лязе нажа хадзіў, раніўся нямала,
Адгукаўся ў скронях зацяжны скачок…
І заўжды пад сэрцам біла, пульсавала:
“Не парвіся толькі, срэбны ланцужок!”

Дабрыні ня зычыў анідзе ніхто мне –
Хоць бы на панюх які, хоць які шматок,
А вось жыў, ня згінуў,
жыў, таму, што помніў:
“Не парвіся толькі, срэбны ланцужок!”

Некалі казала мудра парадзіха,
Што, калі ёсьць крыжык, будзе і бажок.
Хто яго чапляў мне, той нашэптваў ціха:
“Не парвіся толькі, срэбны ланцужок!”

Дробныя, што мак той, успаміны-зьвёны
Мёртва змацавалі даўні той зарок:
Ты – мой бог адзіны, а са мной да скону
Нітка-павуцінка – срэбны ланцужок.

*2003*

**Эклезіяст,12:6*

## НЯ ВЕДАЙ МЯНЕ

*“Гэта лёс. Ці такога жадала?*
*Што ж, заплач. Твой каханы – паэт!”*
*Ул. Кавалёў.*

Ня крылаў і волі,
Ня хлеба ды солі,
Ня жменю манет…
Я даў табе болей –
Магчымасьць ніколі,
Паверыш – ніколі
Ня ведаць мяне.

Тваім было цела,
Ты болей хацела –
Злавіць на мане.
Нахабна і сьмела
У вочы глядзела,
У жорсткае “не”.

Узважвала словы
На шалях адмовы,
Шукала прыкмет
У сховах размовы
Нікчэмнай паловы
Ды ісьціны сьлед.

У кволых далоньках,
Нібы абалонку,
Трымала сакрэт!
Ня ведала толькі:
*Пад скураю тонкай**
Хаваўся паэт.

---

**Словы з верша Г. Дубянецкаяй “Даратэя”.*

Здаюся бяз бою…
Няхай слодыч болю
Цябе абміне.
Так лепей – даволі,
Так трэба – ніколі,
Ніколі, ніколі
Ня ведай мяне.

*2003*

## БАЦЬКАВЫЯ ГУСІ

Ловіць татка плотак на Дняпры,
Мамка гулянятам ладзіць клетух…
На глухім стаіўшыся двары,
Я на смак каштую цыгарэту.

Бацька п’е з суседзямі віно,
Варыць мама сьціплую вячэру…
Першы раз дзявоцкія ў кіно
Грудзі да рукі сваёй прымераў.

Цягнуць гусі тату з-пад гары,
А мяне ў жыцьцё зьбірае маці…
Шмат гадоў адсьнежыць, адгарыць –
Госьцем я цяпер у роднай хаце.

У старога пальцы на курках,
Мама азіраецца на дзверы…
Ты мяне, як рыбіну рака,
Выкінь, лёс, на той далёкі бераг –

ловіць татка плотак на Дняпры
варыць мама сціплую вячэру
цягнуць гусі тату з-пад гары
мама азіраецца на дзверы…

*2003*

* * *

Не сьцяжынамі крочым пад зорамі,
Не лісьцвянаю сховай садоў –
Лабірынтамі-калідорамі
Ад жывога зьбягаем ізноў.

Усё роўна як – ліфтам ці лесьвіцай –
Толькі б першымі быць заўжды,
Каб тапіць свае тыдні і месяцы
У мутнечы казённай вады.

Нашы пальцы не здатны на золку
Ад сьцюдзёнай зайсьціся расы
І кранаць шапатлівае золата
За жытнёвыя каласы.

Там, пры жыце, – мяжа з рамонкамі,
А ў паветры – мядовы Спас,
Там жаўручка шчымліва-звонкая
Адспявае сваё без нас…

Мы ж зацята бяжым калідорамі,
Заміраем ад сэрцабіцьця.
Невылечна здаемся хворымі,
На прыдуманай гонцы жыцьця.

*2003*

## ПРЫЦЯГНЕНЬНЕ ЛЯЎКОНІЙ*

Вар’яцею ад паху ляўконій,
Ці ляўкой, як казала яна,
Вар’яцею: яна не пазвоніць,
Нават кветкі – між намі сьцяна.

Не зьбяжыш ад сябе ў вандроўку –
Пагубляўся рыштунак суздром,
Акрамя апошняй сяброўкі –
Глыбіні за разьбітым вакном…

Там, унізе, сапраўдная цнота,
Там такі абсалютны спакой,
Што ўяўляеш сябе пілотам,
І ляціш да духмяных ляўкой.

Ёсьць вакно на паверсе пятым,
Дзе не будзе болей турбот –
Я сабе дазваляю сьвята
І загадваю целу: “На ўзлёт!”

Дражніць дзіўны водар ляўконій,
Ці ляўкой, як казала яна…
Я  вярнуся да кветак сёньня,
Адарваўшы сябе ад вакна.

*2003*

---

**Перад самым стартам гэты палёт быў спынены гомельскімі сябрукамі-паэтамі.*

## ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ ЦІХА ПАМІРАЛА

*“Як жораў, як ластаўка,вывяргаў я гукі,*
*тужыў, як голуб, маркотна глядзелі вочы*
*мае да неба: Госпадзе! Цесна мне;*
*выратуй мяне.”*

*Ісайя, 38:14*

Аднойчы ты сыходзіла з вакзала,
У роспачы схіліўшы галаву…
Не, ты не йшла, ты ціха памірала,
А я дагэтуль неяк тут жыву.
Жыву, але ніхто ня дасьць адказу,
Не дапаможа ў гэтай злыбядзе, –
Што лепш было: памерці там, адразу,
Ці неяк тут, а ўвогуле – нідзе.
Адно прашу, судзіць мяне ня трэба,
Ёсьць страшны суд у кожнага ўнутры:
Я прыручыў, каб зрынутым быць з неба
І ўрэшце зразумець Экзюперы.
Вялікі грэх той аддаецца болем,
Перацякае ў кроў маю іржа…
Застаўся жыць, але ніхто ніколі
Не вызваліць з пакутнага крыжа.
Ня кленчу “выбачай!”, бо гэтага так мала,
Як мала нават скласьці галаву…
За тое, што ты ціха памірала, –
Я неяк тут, відаць, яшчэ жыву.

*2003*

## ДЗЕДАВЫЯ МЕДАЛІ

Пра вайну чытаў я, а калі
Вольныя часіны выпадалі,
Дзеда паказаць свайго прасіў
Медалі, схаваныя ў пенале.

Дзед таксама некалі цаляў
У вясёлых хлопцаў-акупантаў,
Сьмерць ня раз кружылася каля…
Толькі ўпаў, аглушаны брызантам.

Потым: “Ахтунг! Скідвай рамяні”,
Рурскі вугаль, чорны пыл палону…
На чужой, страшэннай, глыбіні
Высьпявалі помста ды праклёны.

Пераможны сорак пяты год…
Ціха дзед з’явіўся на світанку,
А яго сустрэла ля варот
Не, не проста жонка, – партызанка.

Час ідзе… І я не піянер,
І бабулю з дзедам пахавалі,
Ды хвалююць праўнукаў цяпер
Медалі, схаваныя ў пенале.

*2005*

* * *

Пэўна, мікроб раз’ядае мне сэрца?
Пэўна, стаміўся і трэба памерці?
Можа тады прарастуць, нібы сьведкі,
Скрозь маё цела жывучыя кветкі.

*2005*

* * *

*Анатолю Сысу, бацьку*

Разальецца Дняпро па вясьне,
Завірыць, зацурчыць за кармой –
Не плыві на той бок без мяне,
Забяры мяне, татка, з сабой!

Пераможна скарае вясло
Ашалелую, пенную плынь…
Не паспеў аж на некалькі слоў:
“Ты мяне аднаго не пакінь!”

*2006*

**РАДЗІНА**

Пытаюцца: “Што ж Радзіме
Не прысьвяціў свой верш?”
Яна ж мне адно – радзіна,
Зь якой не памрэш.

Якая ў жвірах спачыла
На кручах, па-над Дняпром,
Якая ў ліхой разліве
Мой цудадзейны паром!

Якая ў гулагах канала,
Касьцямі мосьцячы гаць,
Ды ёсьць каму вершы Купалу
Сёньня чытаць.

А колькі ў вайну пабіта!
Ды ўсё ж чапляла хамут,
Каб залацелі жытам
Балоты ды груд.

Радзіна, адзінаая ў сьвеце,
Аддзячу табе, калі
Будуць рупіцца дзеці
На гэтай зямлі.

*2007*

## ЛЯ СІНЯЙ ВАДЫ

Хадзілі тут прышлыя злыдні спрадвеку,
Сеялі прыхадні гвалты ды здзекі…
Тутэйшыя людцы паганых лупілі,
Хаты свае жыватом баранілі.
Ну, хто там лічыў тыя тысячы душаў,
Якія палеглі, як дзічкі пад грушай,
Ля Сіняй Вады, на Крапівеньскім полі,
Каб гэтую, хай і нявольную, Волю,
Было немагчыма нам
Страціць ніколі!

*2009*

* * *

Прамы і жорсткі шлях,
нібыта поўха, –
калі, прачнуўшыся,
спяшаешся на працу…
Дадому шлях –
загадкавы і доўгі;
салодкі безліччу
магчымых варыяцый.

*2010*

## **ПРЫБЯЖЫ!**

Я паклічу сэрцам: “Прыбяжы,
У ажыннік, што каля мяжы!”
А ў вачах тваіх спалох яшчэ які:
“Дзе ж твае ажыны-буякі?”

Адкажу табе, галуба, неўспадзеў:
“Покуль дачакаўся – дык паеў…
Што табе ўзамен прапанаваць?”
– Толькі твае вусны каштаваць.

*2012*

## ВЕРШАПЛЁТУ

Тут ты не апошні… ды й не першы,
Хто паэзію за ломкі хвост трымае,
А ці чуў, што, захварэўшы вершам
Чалавек сыходзіць з небакраю?

Пачынай! На раны солі з перцам,
Ды ідзі канаць па завугольлі,
А напішаш – разарвецца сэрца
Камякамі радасьці і болю.

Ты падумай, перш чым заблукаеш
Лабірынтам ненадзейных словаў...
Вось мая паэзія – такая,
Ну а ты, да гэтага гатовы?

*2013*

## ЗА ВЯЧЭРАЙ

Карпа смажанага вока,
Не сачы за мной зацята,
Я ня побач, я – далёка,
Там, дзе думкі ладзяць сьвята.

У аб’ёме пэўнай масы,
За якім ты назіраеш,
Засталося толькі мяса –
Чалавечына сырая.

Ні душы ў яго, ні думак
(Ці багата мясу трэба!).
Рыба – файны пачастунак,
Калі ўжыць з кавалкам хлеба.

Хай душа сабе шчыруе
За перыметрам пакоя,
Ды пра вечнасьць дэкляруе,
Над тваёю, карп, вадою.

*1991*

## ПРЭМ’ЕРА

На апляванай і склізкай сцэне,
Дзе рэжысёрыць нязьменна Бог,
У абакружжы калючак-ценяў
Гучыць нарэшце мой маналог.
А зьверху сцэны нахабна сочыць
Ільсьнянай поўні крывы абрыс,
Жарчэй сафітаў мне сьлепіць вочы,
Вось-вось, здаецца, зьляціць уніз.
І я ў бяздоньне пустое залы
Шпурляю нема лушпіньне слоў,
Аб тым, як часта перападала
Аб’едкаў ісьцін з чужых сталоў.
Я на прэм’еры сябе са скуры
Аж выварочваў, што – чалавек,
Не горш за іншых, у меру дурань,
Рагоў не маю на галаве.
Ад гострых ценяў гасьцей прэм’еры
Я бараніўся, як толькі мог…
А поўня п’яна крычыць “Ня веру,
Ня тую ролю табе даў Бог!”.

*1992*

* * *

*Н.К.*

**Н**авучы мяне не заўважаць
**А**сляпляльны водбліск нажа,
**Т**упат п’яных начных гарыл
**У** глухім і бязлюдным двары,
**С**тому рук на вялікай вадзе,
**Я**давітыя кпіны людзей…

**Н**авучы мяне, як зберагчы
**А**салоду бясконцай начы,
**Т**онкі пах старадаўніх прасьцін,
**У**заемных надзей напамін,
**С**ловы, што разляцяцца, як дым,
**Я**к туман ад вялікай вады…

*2001*

## ВЯРТАНЬНЕ ДАДОМУ

Трухлявы штакетнік,
Дзядоўнік збуцьвелы,
Куры ляніва грабуць азярод…
Учора сюды я прынёс сваё цела,
Хворае цела, як спалены кнот.
Каростай пабраныя,
Гнояцца раны –
Відовішча не для дасьціпных вачэй.
А тут, на радзінных
Крапіўных палянах
Целу прапашчаму крыху лягчэй.
Росы сцюдзёныя,
Водар палынны,
Шэпты глухія ліп ды бяроз
Раны загояць,
Выпрамяць спіну, –
Позірк усьцешыць спужыністы торс.
Цела гатовае жыць і надалей,
Прагнуць яму нескароных вяршынь.
Толькі шкада,
Што няможна ў шпіталі
Гэтакім
Лекі знайсьці й для душы.

*2002*

* * *

Мама, як мне баліць!
За што я небам пракляты,
За што аддаю, каб жыць,
Яму невыносную плату.

Няўжо за жаданьне быць
Ня кімсьці, самім сабою,
Мне так нясьцерпна баліць,
Нібы б´юць сьмяротным боем.

Адзіны малюсенькі крок
У лёсам адмеранай плыні
Зрабіў у аблудны бок,
Ня разам з усімі.

У пастцы воўчай адзін.
Каго цяпер вінаваціць?..
Аб тым і няўдзячны сын
Ня стане пытаць у маці.

Мама, як мне баліць…

*2003*

* * *

Гуляй і ведай – ты ня вінаваты,
Што шмат дзяўчат, а з імі шмат бяды:
*Пакуль растуць прыгожыя дзяўчаты –*
*Яны растуць для некага заўжды*.*

*2003*

---

**Радок з рамана Кальмана Міксата «Парасон Сьвятога Пятра».*

## АПОСТРАФ

Дзекайце і цекайце, калі вы здаровы,
Калі ў повязі кароткай вы з кароткім у,
Толькі не давайце ў крыўду
нашай мовы,
Ні тутэйшаму чужынцу, ні яшчэ каму.

Якайце і ёкайце, людцы мае родныя –
Гэтага ня купіце нават за даляр.
Кропачкі над літарай *ё* надзвычай модныя,
Вось які ў бацькоўскай мовы незвычайны дар.

Як хто недасьведчаны – прачытайце верш яму,
Не – дык насварыцеся, хай сабе крычыць.
Крык усё ж нашмат радней, неяк па-тутэйшаму,
Гэта да пазнаньня мовы Арыядны ніць.

Ну, а з апанентамі будзе досыць проста вам:
Зброю мове выдалі, кожны скажа –Ах! —
Хто калі раз'ятраны – трэсніце апострафам,
Гэтай коскай д'яблавай проста па вушах.

*2004*

## У СТУДЭНЦКІМ ПАРКУ

На могілках,
што называюцца ў Гомелі паркам,
Мне растлумач, Агафон*,
постсавецкаму чму,
Чаму ўсё радзей і радзей падымаецца чарка
І ўсё цяжэй на паўлітра зьбіраем чаму?

Тут мала гаворыцца,
лепей тутэйшай гарэлкі
Грамаў па сто пяцьдзесят
замантуліць у рот,
Столькі ж пакінуць
у сховах чароўнай бутэлькі
У спадзяваньні, што хутка зьбярэцца бамонд.

І падыйшлі ўрэшце рэшт,
і тады Пан Багданаў
Выпіў гарэлку да дна
і замест Агафона сказаў:
Што вы тут тупіце,
вы ж ад народзінаў п’яныя,
І пацякла з вока пана
крывая да вуха сьляза.
Ну а тады ўжо прыбег Пан паэт зухаваты,
Пляшку пустую ў кусты адфутболіў нагой.
І закрычаў: “Ах казлы, самі вы вінаватыя,
П’еце на могілках, тут,
без мяне алкагольны напой”.

*2004*

---

**Уладзімір Агафонаў – філосаф і паэт, жыве ў манастыры пад Кіевам.*

## НЕ БАЮСЯ

Слоў ні брыдкіх, ні добрых не краў,
На чужыя ня квапіўся мары –
Хай гараць яны гарам-пажарам,
Дык за што мяне лёс пакараў?
На хаўтурах не пнуўся скакаць,
З рук не вырваў у п’яніцы чарку…
Толькі лёс – то пад дых, то па карку
Трэсь ды плясь, кожны дзень, кожны час.
Вам галовы ня трушчыў камель,
Дык на плаху маю не кладзіце.
Лепш з астрога душу адпусьціце
За апошні пацёрты рубель.
Я яшчэ да астачы ня спрах
Ад няпраўды, хлусні і адчаю,
Мне так хораша, што адчуваю,
Як балюе адчай у грудзях.
А за мною штодня сьлед у сьлед
Чыкільгае гарбатая доля,
І хавае ў дзіравым прыполе
Невымернае злосьці штылет.
Можа стацца, заб’е мяне гром,
Ці прыкончыць пошасьць якая…
Не баюся – душа адшукае
Супакой за нябёсным Дняпром.

*2005*

## ДАРОГАЮ ДА НЕБА

*Ул. Агафонаву*

Таварыш паэце,
Куды табе пашпарт?
Няма больш на сьвеце
Ні Рыма, ні Спарты...

Ёсьць Гомель і Кіеў,
Ёсьць Крыма ўзьбярэжжа
І людзі, якія
Ня ведаюць межаў.

Паўсюль табе дома
І, пэўна, няблага,
Пад велічным самым
Сонечным сьцягам.

Падумаеш, межы,
Кардоны, заставы!
Мы самі з вусамі,
Мы самі - дзяржавы.

Мы вынайшлі зброю
Для самаахові –
Шкляныя аскепкі,
Калючыя словы.

У сьценах кляштарных,
Ці проста за п’янкай
Ты ведай: не марна
Цячэ Чарацянка.

І ў тым Іярдане*,
Спадар валацуга,
Мы некалі станем,
Рашучыя, цугам.

І пашпарт ня трэба:
Вадою пакрочым
Проста да неба,
Калі ты захочаш.

*2005*

---

**Гэты Іярдан – рэчка Чарацянка, якая працякае якраз на мяжы Беларусі і Украіны.* 

## ВЯРТАНЬНЕ ЗІМЫ

Белы горад сьвяткуе вяртаньне зімы
*(з турмы!)*
І “Валькірыю” грае аркестр бензапіл
*(з магіл!)*
Дзьве сарокі, пяць галак і крумкачок
*(маўчок!)*
Медытуюць пад Вагнера ў скопішчы дрэў
*(пся крэў!)*
Дрэвы валяцца долу адно за адным
*(у дым!)*
Іх бязрадасны люд раскрыжуе да плах
*(г-га-га-х!)*
А затым мёртвым друзам нагрузяць прычэп
*(хлеб!)*
Так зьнікаюць самотных таполяў рады
*(гады!)*
Гэтак горад сьвяткуе вяртаньне зімы
*(а мы?)*

*2006*

---

**Адзіны верш, напісаны мною на марозе, на вуліцы бабровых шапак у Менску.*

## РАДЫЙНІК

Я скачу на мікрафоне
За падзеямі ў пагоню,
Прэзентацыі, прэсухі,
Пераварваю праз вуха,
Перамолваю праз крэда:
“Ані слоўца без абеду”.
Рэпартажы запіваю
тым, што потым наліваюць...
Ды ізноў сабе скачу,
Мільгаціць ажно ўваччу
Ад палітыкаў ды “зорак”,
Ад Максімаў ды Рыгорак.
Дзень за днём, за колам – кола
З дыктафонам – так вясёла!
Я скачу на мікрафоне,
Быццам жарабя ў загоне.

*2008*

## ЭГА

Прысьпешвае фініш,
І ты разумееш:
Усіх не абдымеш,
Усіх не сагрэеш…

*2009*

## ЖЫЦЬ НЕ СТРАШНА

*Б. Пятровічу*

Шукальнік дзеяў, вобразаў і словаў,
Маэстра фрэсак, мрояў уладар,
Найпашанотны бацька “Дзеяслова”,
І вось, нязвыкла неяк – юбіляр.

Што пажадаць…
                    Каб трапна, каб дарэчы,
Хіба – сабою быць і надалей,
Любіць жыцьцё, і раніцу, і вечар,
І не зважаць на гэты юбілей.

Задумаўся, як прачытаў у кнізе…
І зьнік дашчэнту падсьвядомы страх.
Ці страшна жыць?
                    Ня страшна жыць, Барысе…
То будзем жыць, у словах і сябрах!

*2009*

## ТАБЕ

У нас з табою розныя СЫС-тэмы
І розныя ў крыві халестэрыны…
Ты – мёртвая бяздушная багема,
А я яшчэ магу спаліць паўРыма.

*2010*

## НАЧНЫЯ ПАВУКІ

Мне сёньня сон прымроіўся такі –
Галовы нам аб’елі павукі.

Абачліва-нябачныя стварэньні,
Начныя жахі кволых пакаленьняў,

Вылазяць ціха з хованак штоночы,
Каб запаўзьці ў галовы нам праз вочы.

Мазгоў недасканалых рэвізоры
Нас дажыраюць якасна і спора.

Іх часам шпацыруе да халеры
Бульварамі зьнясіленых артэрый,

А ў глуханоч махнатая пяхота
Пальне сваім павуччым шротам,

І сэрца разарвецца, як лушпіньне,
І зьнікне цела ў белай павуціне.

Як крыўдна ведаць гэта, мужыкі:
Нас загрызуць начныя павукі.

*2010*

## СТРАЧАНЫ СЬПЕЎ

Высокія драўляныя вароты
У зацені здаўна знаёмых ліп…
І мроіва вячорнае самоты,
І гэтае спрадвечнае: “Калі б…”

Калі б вярнуць юнацтва гэтым ліпам,
Пачуць ізноўку таямнічы сьпеў
Дзявоцкі, мілагучны, сьціплы…
Але не змог, няўклюда, не пасьпеў.

Пахілы плот… яму мо год да скону,
Але тады – як мур усё адно.
Цяпер крывы, трухлявы і зялёны,
І мы з табой трухлявыя даўно.

Не перайшоў ні яўна, ані ўпотай
Мяжу найлепшай з страчаных сяліб.
Парыпваюць замшэлыя вароты —
Уладары нязбытнага “Калі б…”

*2011*

## П’ЯНЫ СОН

Сон сасьніў, што я ўжо мёртвы:
Вечка схоплена цьвіком…
Разарваная аорта
Фантануе каньяком.
А здалёку, як з-за хмараў,
Далятаюць галасы:
“Самы лепшы… хлопец-мара…
Сьпі спакойна, браце Сыс…”
Ах, як стала смешна мне,
У капеечнай труне!
Я схаваўся ў тоўшчы глею
І пацiху вар’яцею…

*2011.*

## ЦАГЛІНЫ

Перш чым цагліна злучыцца з мурам –
Муляр вачамі яе распране,
Вывучыць пільна цагліны натуру,
І вось нарэшце цэгла ў сьцяне.

Кратае муляр другую цагліну,
Нібы каштоўную рэдкую рэч…
І адкідае яе праз хвіліну,
Як непатрэбшчыну некуды прэч.

*2011*

## НЕ БЯДА

Сьвяты Божа, сьвяты крэпкі!
Перасохлі мае рэкі,
Рэкі жарсьцяў маладых.
І зьнясілелі дашчэнту
Словы, што нібыта прэнты,
Білі трапна і пад дых.

Анікога больш не хочуць
Лашчыць позіркамі вочы…
Хоць павыкалі ты іх!
Ці, дальбог, бяда такая?
Калі нервам адчуваю
Кожны подых твой і ўздрыг.

*2012*

* * *

*Віктару Сазонаву**

Усё было тут неаднойчы:
Туман над Нёмнам, лістабой,
Гароднi шэпты сярод ночы…
Было спрадвек, і ёсьць з табой.

Дальбог, “краёў чужых ня трэба”,
Тут родны кут, тут род, тут Храм…
Ці не таму душа, як неба,
Людскім адкрытая вачам?

Жывеш нязломнаю Каложай,
Паўвеку праўдзіш продкаў чын…
Імя тваё ўсё Пераможа,
Зямлі гальшанскай годны сын.

Усё было тут неаднойчы:
Туман над Нёмнам, лістабой,
Гароднi шэпты сярод ночы…
Было спрадвек, і ёсьць з табой.

*2013*

---

**Верш напісаны да 50-годдзя аўтара «Запісак кантрабандыста» Віктара Сазонава.*

## ШОРГАТ ЖУКОЎ

*Зміцеру Вішнёву*

Даражэй за любую траву-мураву,
Як жыцьцё, я заўжды шанаваў крапіву.
Час ад часу было: пук пякучкі сарву
Ды лупцую, лупцую сваю галаву.

Нібы блазан, нібыта малое дзіцё,
Практыкую крапіўнае целазьбіцьцё,
Даставалася болю каб, як на пяцёх,
Каб ад болю мацней вiравала жыцьцё.

Што жыцьцё! Гэта толькі набытак мазгоў –
Амнезія дашчэнту зжырае яго…
І вяртаецца з пасткі дрымучых вякоў
Толькі шоргат жукоў,
                                    толькі шоргат жукоў…

*2014*

## АДЗІН ДЗЕНЬ НАПАЧАТКУ ЛЕТА

Цэлы дзень крумкачы нападаюць на цень мой
і цэляцца дзюбамі ў цемя
квапіцца на эгаізм мой пабіты Гедройцям
празаік-паэт з Ваўкавыску
30 “Камазаў” з Расеі  вязуць у Луганск
і Славянск жывыя яшчэ ўгнаеньні
сатрапы шукаюць цару
залатыя відэльцы, талеркі, ды міскі…

У Сьвіслачы нехта ўтапіў уначы
заплечнік з жывым немаўляткам
Еўракамісія просіць прыняць
несуседку Літву ў зону еўра
што з Праляскоўскім, кірдык?
Ну а з большага ўсё тут ў поўным парадку,
у шакаладзе мая Беларусь…
акрамя і мяне,
і маіхператруджаных нерваў.

*2014*

* * *

*Алесю Бяляцкаму*

Абагрэты дзівосным сьвятлом,
Ён паўстане, наш велічны дом, –
Для тутэйшых гасьцінная хата.
Ветлы дом на вятрах чатырох,
І аблашчаны сонцам парог,
За якім - праламіліся краты.

Ты вярнуўся нарэшце дамоў,
Ты вярнуўся з турмы да сяброў,
Як і быў, нескароны і белы…
Нават сонца сьмяецца сьмялей,
Нават стала на сэрцы цяплей,
І на гэтай зямлі – завіднела!

*2014*

## ПАВУК

*Галіне Дубянецкай*

Штогод з тумановае ніткі
Пляце свой нерат някідкі
Сусед мой, мудры павук.
Чакае, схаваўшыся ў сьлівах,
Каб выскачыць раптам імкліва
На мухі даверлівай гук.

Хіба гэты сьвет перайначыш?
І вось муха ў нераце плача,
Павук жа ізноў на піры.
Блішчыць павуцінка на сонцы,
І вабіць у пастку бясконца
Хмары ліхой жамяры.

Раз-пораз мы бачымся, браце,
З табою, калі я ня ў хаце,
А йду да цябе пад страху.
Вось каб у цябе, паляўнічы,
Цярпеньня хоць крупку пазычыць…
Ды доўга прасіць не магу.

*2014*

* * *

Тры шчарбатыя прыступкі
Ля ўваходу у “хрушчоўку”
Безліч зьведалі падэшваў,
Процьму вытрымалі ног.
Хто адкажа: не - ці доўга
Тут маім абцасам шчоўкаць?
Дык няхай жывуць прыступкі
Крайняй кропкаю дарог.

*1981*

## УДОД

Ледзь споўз з гарадскіх тратуараў
Прадзерты падэшвамі лёд –
У сховах старога квартала
Азваўся затворнік-удод.
Палохае пільнага птаха
Няўмольны і гібельны лёс,
Які па-над схіламі дахаў
Бетонныя гмахі узьнёс.
Ды плёну з таго небагата,
Шаноўны затворнік-удод:
Трашчаць старасьвецкія хаты,
Зьнікае астатні аплот.
У дол упіваюцца палі
І прэ хмарачосавы спрут
На нашу зьмялелую памяць,
На ціхі удодавы кут.

*1989*

* * *

Некалі ўтульны, птушыны, зялёны
Парк па-над Сожам – маўклівы і ніцы.
Смутак блукае між сьцішаных клёнаў
Ды ападае на плечы капліцы.

*1990*

* * *

Хутка тут,
між абрыдлых
дамоў гарадскіх,
паўзадушаных ціскам
бязьлітасных вуліц,
з-пад асфальту ўзаўецца
зямля на дыбкі,
і надзеяй  мяне,
і пяшчотай атуліць.

*1991*

## УЦЁКІ Ў ПАРЫЖ*

Па асфальце, па бруку, па тлуме,
Па абветраных тварах афіш,
Зьбінтаваны жыцьцём, быццам мумій,
Уцякаю адсюль у Парыж.
Расступіся, учэпісты Гомель,
Дай за межы твае зазірнуць,
Стрэсьці зь цела тутэйшую  стому,
Ды адмыць местачковую муць.
Азірнуся, пакрочу, шукаю...
Угрызаюся ў нетры двароў:
Хоць бы шчыліна дзе якая,
Ці які неразьведаны роў.
Я прапоўз бы любым завугольлем,
Каб патрапіць на плошчу Пігаль,
Патаптаць Елісейскае поле
У палоне згаворлівых краль.
Пашукаць бы сяброў на Манмартры,
Глянуць з Эйфеля некуды ўніз,
Не стрымацца і крыкнуць азартна:
“Пaглядзіце, французы, я – Сыс!”
Небарака, ці я каму трэба,
Гамяльцы там ня ставяцца ў грош.
Ну і бог зь імі – лепшае неба
Не над Сенай, а там, дзе Сож.
Адшукаю брамку калі я,
Праз якую дарога ў Парыж –
На замок яе ў момант закрыю...
На Парыжы пастаўлю крыж.

*2003*

---

**Роўна праз 10 год я патрапіў такі да Парыжу.*

* * *

Апошняе піва сезона
У брудным сырым павільёне
Такое ж цягуча-стылае,
Як сум непраходны мой.

*2005*

## ГУСІ НАД БЕРЛІНАМ

Зьняў Берлін асьнежаны парык,
Абмывае дождж дамоў чупрыны,
І раптоўна ў мутным небе крык
Пакідае доўгі клін гусіны.

На радзіме цені топчуць сьнег,
Ледзяшы трымаюцца франтонаў,
А па Шпрэе прэ вясна ў разьбег,
Шчэміцца праз дзьверы ды балконы.

Каля кірхі крокусы крычаць:
“Перамога! Hende Hoh*, марозы!”
Недзе гусі стомлена ляцяць,
Важныя, нібыта бамбавозы.

Пралятуць праз сэрца і імжу
І Берлін ахутаюць туманам…
Як я гэтым крыкам даражу,
У тумане зьніклым караванам.

*2008*

---

**Hende Hoh (ням.) - рукі ўгару.*

## СМАЛЕНСК

Як выпраўляюся ў паход –
заўжды, па-джэнтэльменску,
сваю экспансію на Ўсход
спыняю на Смаленску.

Ля сьценаў велічных крамля
палохаю смалянаў:
“Віват, крывіцкая зямля,
Край кніжніка Рамана!”

Даруйце гэтакі імпэт, –
Хаця чаго дзівіцца!
Не таямніца, не сакрэт:
“Смаленск – мая сталіца”.

Тут мой Дняпро і сем халмоў,
Царква на Гарадзянцы…
Вось тут бы жыць, ды час дамоў.
Экспансія – без шанцаў.

*2008*

## ГАЛАТАСАРАЙСКІЯ КАТЫ

Паўстаў Стамбул мурлатым раем…
Перераканаўся сам: і сапраўды
На Галатасараі загараюць,
Нібыта беі важныя – каты.

Гляджу не на мячэты ганарыста,
Нішто больш не цікавіць, акрамя –
Як шчэмяцца пашанліва турысты
Сярод лянівых млявых турчамяў.

*2010*

## СТАНЦЫЯ МЕТРО НЯМІГА

Соннае цела
трапляе ў глыбіні
падземнага Стыксу,
плыньню сярод менчукоў
праплывае
і крохкаю крыгай
я пачуваюся тут, дзе
самотныя ўсхліпы
замураванай
навечна ў бетон
нескаронай
Нямігі…

*2010*

## ЧУЖЫЯ ГАРАДЫ

Чужыя гарады раскусваеш паволі,
Праточваешся ціха за глянцавы фасад,
Звужаючы кругі, шукаючы паролі
Да вулак і дамоў, да плошчаў і прысад.

Чужыя гарады – яны і ёсьць чужыя.
Аднак жа, надараецца, – узгадкамі зрэдчас
Вяртаюцца сюды, халодныя, глухія,
Каб з неадольнай сілай запалоніць нас.

*2011*

* * *

Адхінаю далонь
ад парэнчаў метро
не адчуўшы цяпла
тысяч дотыкаў рук
што былі да мяне...

*2011*

## ВОСТРАЎ СЬЛЁЗ

*Уладзіку*

Купілі ў “Траецкім” піва
па пляшцы “Крыніцы” сьветлай,
пасля кароткае паўзы –
гарэлкі, каб піць усур’ёз…
Бязладна крычалі чайкі,
крычалі і мы пра вершы
і крапалі сьлёзы ў ядловец
на менскім востраве Сьлёз

*2011*

* * *

Блукаю сярод
чужых гарадоў
іх прыгажосьці
халоднай
не бачу,
дарэмна шукаю туман
над разьлівай
дзяцінства

*2011*

## МЕНСК

Звонам ратуша зноў нагадала пра час
Падымацца і, вусны апёкшы гарбатай,
Выпаўзаць, каб пакорліва легчы пад прас
Шараговага дня, закаванага ў латы.

Менск сьвітальны, спавіты ў пялюшкі начы,
Прыме звыкла мяне ў сваё цёплае ўлоньне,
Ды садзьме потым,
                                        пёркай птушынай памчыць
У такое ж пустое няздарнае “сёньня”.

*2011*

## У ГОРАДЗЕ, ДЗЕ…

У горадзе, дзе на дамах і засовы, і краты,
Тубыльцамі лічаць сябе павукі ды хімеры.
У горадзе, дзе не жадаюць
сьмяяцца дзяўчаты,
Калі баюць сумныя казкі для іх кавалеры,

У горадзе, дзе давялося
аднойчы мне ночыць,
А досьвіткам вулкамі
сьпехам сыходзіць нервова,
Пры гэтым з трывогай глядзець
у сустрэчныя вочы,
Хапаючы ротам туман і губляючы словы,

У горадзе, дзе не сустрэнешся
з мужным рэйтарам,
А ззаду нажа між рабрын
атрымаць верагодна…

Адгэтуль хіба што мой цень
застанецца бульварам,
Зьбягаю адсюль назаўжды
да зямлі першароднай.

*2011*

## БЕЛАСТОК

У гарадох блукаў далёкіх,
Губляўся ў скопішчах людзей,
І толькі ў ціхім Беластоку,
Так, так, у ціхім Беластоку,
Было мне ўтульней і мілей.

Да Заменгофа вольным крокам
Прайдуся Ліпавай наўсьцяж…
Бо толькі ў шчырым Беластоку,
Так, так, у шчырым Беластоку
Яшчэ застаўся подых наш.

А як зьлятаюцца аблокі
На Роха, што сярод дарог!
Ды ўсё таму, што ў Беластоку,
Так, так, у сьветлым Беластоку
Яшчэ гуляе часам Бог.

Яшчэ ня раз усьцешаць вока
Пляц і Браніцкага Версаль,
Пакуль спачну, – не ў Беластоку,
Так, так, спачну не ў Беластоку,
А ў Беларусіі, на жаль…

*2011*

## ВІЛЬНЯ

«Скрадзены рай Беларусі» –
Позірк схапіў на паперцы.
Раптам у Вільні прачнуся...
Выбягу ў рай, каб... памерці*
...............................................

*2013*

---

**Усё, што засталося ад верша, які быў напісаны ў віленскім гатэлі, ды забыты там назаўжды.*

**ЗА ШАПЭНА!**

Я пабачыў – не памёр!
Бо ў кішэні – дуля.
Важны крочу, як бабёр,
А са мною Юля.

У Парыжы – дваццаць тры,
Чорныя таксісты…
Вось і Нотр Дам дэ Пары,
Бабілон турыстаў.

На Манмартр, было, узлез,
Лузнуў келіх віскі…
А цяпер – на Пер-Ляшэз,
Хоць і шлях няблізкі…

Цішыня, спакой і тлен
Агарнулі Юлю…
Юль, глядзі, а вось – Шапэн!
Памянём дзядулю?

Даставай хутчэй "Шато",
Сыр і пластыкоўкі…
Сядзем тут, сярод кустоў,
Бо без іх нялоўка.

Фрэдэрык, давай за нас!
Заўтра нам дахаты.
А калісьці прыйдзе час
Для «Другой санаты»…

*2014*

## ВЫБАР

Па левы бок – сьвятая  Магдалена,
на правы спакушае Кафедральны…
Гуляючы па Менску задуменна,
я крочу ў бар: лагічна і фатальна.

*2014*

## ЦІШЫНЯ

Яшчэ не закружыўся ў звыклым карагодзе
Сьвітальны Менск, і позірк заўважае:
Над Залатою горкай сонейка ўзыходзіць
Таму і Горка, мусіць, залатая.

Яшчэ пра волю сьняць у нетрах “Валадаркі”
І вязні, і, магчыма, вертухаі,
А над Траецкім чайкі горад будзяць сваркай.
Прыходзіць дзень, і цішыня ўмірае…

*2014*

**ЗЬМЕСТ**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Сыс Сяргей Анатольевіч**

# ПАВУК

Вершы

Адказны за выпуск Зміцер Вішнеў
Рэдактар Галіна Дубянецкая
Карэктар Галіна Дубянецкая
Дызайн і вёрстка Сяргей Сыс
*sys-s.org*

*На вокладцы выкарыстаная карціна Алеся Сцёпіна*

Падпісана да друку 09.09.2014. Фармат. 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Гарнітура Arial. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,21. Ул.-выд.арк. 2,53.
Наклад 300 асобнікаў. Замова №2437

Прыватнае выдавецкае
унітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
Запіс № 1/48 у Дзяржаўным рэестры выдаўцоў,
вытворцаў
і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў.
Вул. Валгаградская, 4А-24, 220023, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru, www.galiafy.by

Друк ТДА «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі,
выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ 25.02.2014
за № 2/54.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.